Opłatę pocztową
uiszczono ryczałtem.

# Сялянская Праўда

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Цана асобнага нумару 20 грош.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня. Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12, m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 зл.** Для заграніцы ўдвая даражэй.

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 грош., за радок пэтыту ў 1 шп

№ 19. Вільня, Серада, 12-га лістапада 1924 г. Год I.

## Ці сьвет ідзе ўправа?

Вынікі парляманцкіх выбараў у Англіі і прэзыдэнцкіх—у Амэрыцы тлумачацца рэакцыйнай прэсай, як ясны доказ, што *„сьвет ідзе ўправа“*.

Бязумоўна, і ў Англіі і ў Амэрыцы мы маем дзела з бясспрэчнай перамогай кансэрватыўных элемэнтаў, тачней кажучы—буржуазіі. Імёны Балдвіна і Куліджа гавораць самі за сябе. Але з перамогі буржуазіі йшчэ нельга рабіць так далёка сягаючых вывадаў, як заява аб „павароце сьвету ўправа“.

Разгледзім гэтае пытаньне глыбей.

Калі будзем разважаць аб палажэньні ў Англіі, дык перш за ўсё мы павінны адзначыць факт, што стварэньне *першага* сацыялістычнага ўраду ў гэтай дзяржаве было, фактычна, *прыпадковым*—дзякуючы падтрыманьню іх лібэраламі. У парляманце ў мамэнт стварэньня ўраду Мак-Дональда сацыялісты ня мелі абсалютнае большасьці: яны стаялі на другім месцы па сваей лічэбнасьці—пасьля кансэрватараў і мелі 198 мандатаў, пад той час, як кансэрватары мелі 256. Кансэрватыўны ўрад Балдвіна быў скінуты, толькі дзякуючы супольнаму выступленьню проці сацыялістаў (198 галасоў) і лібэралаў (151 голас), а пасьля ўпадку Балдвіна сацыялістам, як чароднай найвялікшай партыі, згодна з парляманцкай традыцыяй, кароль і даручыў стварэньне новага ўраду. Калі-ж лібэралы перасталі сябраваць з сацыялістамі, ураду Мак-Дональда было выражана недаверые новай большасьцяй—лібэральна-кансэрватыўнай.

Гэты саюз лібэралаў з кансэрватарамі адбіўся і на выніку апошніх выбараў. У Англіі—выбары не прапорцыянальныя, а мандаты (па адным ад кожнага округу) бяруць тыя, хто ў дадзеным окрузе дастаў найбольш галасоў. Аб'яднаньне лібэралаў з кансэрватарамі і дало такую адносную большасьць кансэрватыўным кандыдатам у 46 акругох, дзе на папярэдніх выбарах прайшлі сацыялісты, дый прайшлі-бы і цяпер, бо лічба пададзеных за іх галасоў была, напэўна, большая за лічбу кансэрватыўных і лібэральных, узятых паасобку, аднак меншая за іх, узятых разам.

Наагул, лічба сацыялістычных галасоў сёлета ўзрасла проці леташніх выбараў на 1.100.000 галасоў. І гэты прырост найлепш гаворыць, што перамога кансэрватараў зусім не паказуе на нейкую зьмену ў настроях работніцкіх масаў Англіі на карысьць кансэрватыўнае партыі. Наадварот, вынікі англійскіх выбараў гавораць нам толькі аб тым, што рост арганізаванае сілы буржуазіі адбываецца ўсё яшчэ шыбчэй, чым рост сілаў работнікаў. Вось чаму работнікі, ўзяўшы ў свае рукі ўладу *прыпадкова*, не маглі ўдзяржаць яе настала. І можна гаварыць хіба толькі аб тым, што работніцкія масы Англіі *не дасьпелі* йшчэ да поўнага апанаваньня дзяржаўнае ўлады, але ніколі не аб павароце іх ўправа.

А што-ж сталася ў Амэрыцы? Там, як і ў Англіі, работнікі і радыкальная працоўная інтэлігенцыя *першы раз* зрабілі спробу выставіць свайго кандыдата ў прэзыдэнты і... праваліліся. Але, калі прыпомнім, што на папярэдніх выбарах яны нават не адважаліся выступіць з уласным кандыдатам, аддаючы свае галасы за аднаго ці другога кандыдата канкуруючых між сабой дзьвюх найвялікшых буржуазных партыяў (так-званых „дэмакратаў“ і „рэспубліканцаў“),—дык і тыя дзесяткі выбаршчыкаў працоўных зьяўляюцца зусім новым зьявішчам, зьяўляюцца знакам, што амэрыканскія рабочыя масы *ўваходзяць на свой уласны* шлях у барацьбе за ўладу. І з няўдачы гэтае першае спробы бароцца за ўладу для працоўных яшчэ менш, чым у Англіі, можна гаварыць аб нейкім „павароце Амэрыкі ўправа“.

Наадварот: і ў Англіі, і ў Амэрыцы мы бачым усе адзнакі таго, што працоўныя масы з чыста пасыўнае ролі ў палітычным жыцьці пераходзяць да ролі актыўнае, да змаганьня за ўладу, якую трымае ў сваіх руках ад вякоў буржуазія. Дык ці-ж дзіва, што ім *адным ударам*—і то бяскроўным—не ўдалося разьбіць тую сілу, якая тварылася і арганізоўвалася ў працягу сталецьцяў?!

## Цікавыя цыфры.

Падаем тут статыстыку партыйнага складу трох апошніх парлямантаў у Англіі:

1) на выбарах **1922 г.** (урад Балдвіна) атрымалі:

| | | |
|---|---|---|
| Кансэрватары | 344 | мандаты |
| Лібэралы | 117 | „ |
| Партыя Працы | 138 | „ |
| Беспартыйныя | 11 | „ |

2) на выбарах **1923 г.** (урад Мак-Дональда):

| | | |
|---|---|---|
| Кансэрватары | 256 | мандатаў |
| Лібэралы | 151 | „ |
| Партыя Працы | 198 | „ |
| Беспартыйныя | 5 | „ |

3) на цяперашніх выбарах (ізноў урад Балдвіна!)

| | | |
|---|---|---|
| Кансэрватары | 410 | мандатаў |
| Лібэралы | 39 | „ |
| Партыя Працы | 152 | „ |
| Беспартыйныя | 4 | „ |

А вось лічба галасоў, якія былі пададзены на выбарах у 1923 годзе і цяпер:

**У 1923 годзе** было пададзена галасоў:

За буржуазныя партыі (кансэрватараў і лібэралаў разам) — 9.700.000.

За работніцкую Партыю Працы — 4.500.000.

**У 1924 годзе:**

За буржуазныя партыі — 10.700.000.

За Партыю Працы — 5.500.000.

Такім парадкам, лічба галасоў, пададзеных за буржуазных кандыдатаў, узрасла **на 10%**, лічба работніцкіх галасоў — **на 18%**.

---

У Амэрыцы на прэзыдэнцкіх выбарах партыя Куліджа (—пры галасаваньні на выбаршчыкаў) атрымала 18 міліёнаў галасоў, партыя Дэвіса 8 міліёнаў, **а партыя Ля-Фолетта (работніцкая) сабрала 7 міліёнаў галасоў.**

Як для **першага** выступленьня з самастойным кандыдатам працоўных — гэта хіба ня блага?!

## Прамова пасла Б. Рагулі

*на паседжаньні Сойму 4 лістапада 1924 г.* (*паводле стэнаграмы*).

Высокая Палата!

Урад падаў у Сойм праект бюджэту на 1925 год і прыходзе з прапазіцыяй зацьвярдзіць бюджэт парляманцкай дарогай. Ясная рэч, прэм'ер Грабскі акуратна здае сабе справу з таго, што Сойм павінен мець перад сабою ня толькі голыя лічбы, але і ведаць іх празначэньне — як з увагі на іх мэту, так і на вышыню розных выдаткаў, дый на крыніцы дзеля іх пакрыцьця.

Пан прэм'ер добра ведае, што Сойм, упаўнамачываючы ўрад да гаспадараньня матэрыяльнымі засобамі, павінен ведаць аб усіх плянах ураду, якія той маніцца зьдзейсьніць у сфэры ўнутранае і замежнае палітыкі. Гэтыя ўрадавыя мяркаваньні павінны знайсьці выражэньне для сябе ў нейкай выразнай палітычнай праграме на будучы бюджэтны пэрыяд. Аднак, п. прэм'ер гэтага пытаньня ў поўнай меры—сьвядома, ці несьвядома,—у сваім экспозэ не разважыў.

А здаецца, што цяжкі ўнутраны стан дзяржавы вымагае выясьненьня ўсіх балячак дзеля правядзеньня магчымага аналізу стаўшыхся фактаў. Аднэй з найбольш небясьпечных балячак дзяржаўнага арганізму Польскае Рэспублікі зьяўляецца **забойчы стан на землях беларускіх** і украінскіх, з якім побач ідуць **анархія і аружныя паўстаньні**.

У сваім экспозэ п. Старшыня Рады Міністраў прыадкрыў край крэсавае заслоны і, відаць,—сам спужаўся таго, што тамака дзеецца. Прэм'ер не хацеў ці мо' баяўся зьняць зусім заслону і паказаць Сойму тыя страшэнныя надужыцьці і тыя рознародныя мукі і зьдзекі, якія—ў пастаці **адміністрацыйнага і вайсковага тэрору**—масова сыплюцца на галовы беларусаў і украінцаў, адвечных жыхароў гэтага краю.

Прыадкрыўшы край заслоны, прэм'ер убачыў: **„павялічэньне лічбы і інтэнсыўнасьці нападаў“**, ды што „напады гэныя сваімі разьмерамі **выходзяць значна па-над звычайны бандытызм**“. У гэтай заяве п. прэм'ера я бачу цэннае прызнаньне таго, што напады выходзяць па-над звычайны бандытызм. Гэта—першае, мо' неасьцярожнае, прызнаньне прадстаўніка ўраду, што **на беларускіх і украінскіх землях** пачалася **аружная барацьба** паўстанскага характару. За гэтае прызнаньне я вельмі ўдзячны пану прэм'еру, бо ён першы спасярод польскіх міністраў афіцыяльна заявіў, што на землях „усходніх крэсаў“ **дайшло да аружнага паўстаньня.**

Пану прэм'еру пэўне ведама беларуская прыказка: „як пяюць, так і адпяваюць“. Калі так і калі п. прэм'ер не хацеў-бы мець пропускаў у сваей прамове, дык павінен быў-бы, кажучы аб тым, як „адпяваюць“, паказаць і тое, як „пяецца“, —гэта ёсьць, гаворачы аб пачатку палітычнага паўстаньня, выясьніць прычыны, якія выклікаюць апошняе, бо-ж няма скуткаў бяз прычын. Магчыма, што п. прэм'ер забыўся поўнасьцю расказаць аб гэтым. Я яго зусім разумею: было вельмі многа спраў да абгавораньня ў працягу трох гадзін, якія ён ужыў дзеля сваей прамовы, — дык і ня мог закрануць усяго. Дык няхай жа ён будзе на гэтулькі ветлым і ня возьме мне за зло, што я пастараюся яму дапамагчы ў гэтай галіне і выяўлю тыя прычыны, якія родзяць на ўсходніх землях частыя выбухі паўстанскага характару. Калі п. прэм'еру будуць ведамы прычыны хваробы, дык шмат лягчэй будзе знайсьці адпаведны лек, хаця вынікі лячэньня не заўсёды могуць быць згодныя з пажаданымі мэтамі.

Прычын гэных вельмі шмат, але я закрану толькі некаторыя з іх. У працягу колькігадовага панаваньня Польшчы народ беларускі церпіць уціск з нацыянальнага боку. Урад дагэтуль праводзе палітыку Скульскага, якая імкнецца да таго, каб цераз 50 гадоў ніякіх беларусаў у Польшчы ня было. Усё беларускае церпіць зьдзекі, ці проста перасьледуецца; **беларуская прэса**, паскольку яна не афарбавана дэфэнзыўным духам, **засуджана на рэпрэсіі і канфіскацыі.**

У справе палажэньня праваслаўнае царквы ў Польшчы пануе поўнае беззаконьне. Рэлігійная палітыка ўраду п. Грабскага падлівае вельмі шмат масла ў той пажар, які ўжо пачаўся на беларускіх і украінскіх землях. Пакінуўшы забіраць цэрквы, ён перайшоў да так-званае рэдукцыі праваслаўных парахвіяў, найбагацейшых на матэрыяльныя засобы і будоўлі, пакідаючы зьнішчаныя і малазямельныя парахвіі. Урад мае на свае ўслугі так-званага мітрапаліта Дзяніса і адпаведных яму япіскапаў, якія гатовы благаславіць усялякія пачынаньні ўраду, ды якіх народ і ніжэйшае духавенства не прызнае за сваіх пастыраў. Здэмаралізаваўшы вышэйшае духавенства, урад сваей рэлігійнай палітыкай дэмаралізуе і ніжэйшае духавенства. Урад сілай ськідае паважаных пастыраў, а на іх месца назначае асоб, ня маючых ніякае маральнае вартасьці. Гэтак, пры дапамозе паліцыі

